# Са святам 8 сакавіка, дарагія, мілыя, каханыя!

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

№ 28(5210)
Серада,
7 сакавіка
2001 года

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

Кошт у розніцу — 49 руб.

# Дарагія жанчыны!

Шчыра віншую вас з надыходзячым святам — Днём жанчын. У веснавыя сакавіцкія дні хочацца пажадаць вам шчасця, добрага настрою, кахання, пяшчоты, ласкі ад родных і блізкіх.

У вашай асобе сабраны талент і мудрасць, прыгажосць і прываблівасць, у той жа час вы — моц і будучае нашых пакаленняў. Ад цеплыні вашых рук, дабрыні і спагадлівасці сэрцаў залежыць, кім стане і ў якасці каго прыйдзе ў дарослае самастойнае жыццё ваш выхаванец — ці то выпястовец дзіцячага садка, ці школьнік, ці ўзмужнелы юнак, які абраў свой прафесійны шлях, прыйшоўшы ў вучылішча, каледж, універсітэт. Час мяняе арыенціры ў эканоміцы, навуцы, грамадскім уладкаванні. Нязменнымі застаюцца толькі вечныя маральныя і духоўныя каштоўнасці, тое, што вызначае ў чалавеку асобу. І як бы цяжка нам ні было, як бы ні выпрабоўваў нас лёс, зразумела адно — нам нельга дазволіць абставінам кіраваць нашымі памкненнямі і задумамі. Грамадзянскі і прафесійны абавязак настаўніка — заставацца ўзорам і ў самыя цяжкія хвіліны. Я ведаю, што гэта рабіць нялёгка. Але ж мы павінны так працаваць і жыць дзеля нашых дзяцей.

Нягледзячы на нястачу і слату, сённяшняя школа выйшла на новыя рубяжы, годна нясе сцяг адукацыйных перамен, апрабіруе і ажыццяўляе намечанае. Я ганаруся вашым непрыкметным і сціплым подзвігам, які вы штодня здзяйсняеце ў школьных і студэнцкіх аўдыторыях, запальваеце нязгасны агонь ведаў і пазнання, дапамагаеце дзяржаве выстаяць у няпростай эканамічнай сітуацыі. Перакананы і ўпэўнены, што і Прэзідэнт, і ўрад нашай краіны бачаць у Вас, дарагія настаўніцы, магутны падмурак дабрабыту беларускага народа, які ладзіць нам з вамі ўжо сёння — сваёй няўрымслівасцю, энергічнасцю і адданасцю ў працы.

Са святам Вас, мілыя жанчыны! З надыходам вясны! Цёплага сонца Вам!

**З шанаваннем**

**Міністр адукацыі**
**Васіль СТРАЖАЎ.**

## Асаблівую падзяку за бескарыслівасць і адданасць у працы, высокі прафесіяналізм, плённы ўнёсак у адукацыйныя набыткі краіны хачу выказаць:

Аляксандры Міхайлаўне Білібуха, настаўніку этыкі сярэдняй школы № 2 Бярозы;

Таццяне Міхайлаўне Волк, настаўніку беларускай мовы і літаратуры Сочыўскай сярэдняй школы Іванаўскага раёна;

Зінаідзе Міхайлаўне Гладышук, намесніку дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Брэсцкай санаторнай школы-інтэрната;

Наталлі Васільеўне Завадскай, настаўніку пачатковых класаў сярэдняй школы № 4 Івацэвічаў;

Алене Іванаўне Кучма, загадчыку ясляў-сада № 7 Ганцавічаў;

Вользе Барысаўне Пацоўскай, настаўніку матэматыкі гімназіі № 3 Пінска;

Вользе Рыгораўне Праневіч, настаўніку рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 1 Драгічына;

Валянціне Міхайлаўне Якіменка, намесніку дырэктара па вучэбнай рабоце Брэсцкага політэхнічнага тэхнікума;

Тамары Рыгораўне Арловай, дырэктару Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага каледжа;

Валянціне Цімафееўне Бычковай, начальніку экалагічнага цэнтра Віцебскага абласнога аб'яднання пазашкольнай работы з дзецьмі і падлеткамі;

Людміле Мікалаеўне Вышаткевіч, загадчыку Пагашчанскага дзіцячага сада Браслаўскага раёна;

Алене Леанідаўне Гірэль, настаўніку фізікі Расонскай сярэдняй школы г.п.Расоны;

Галіне Міхайлаўне Гронскай, настаўніку рускай мовы і літаратуры гімназіі № 1 Віцебска;

Алене Леанідаўне Гурчонак, выкладчыку беларускай мовы і літаратуры Полацкага педагагічнага каледжа імя Ф.Скарыны;

Валянціне Гіляраўне Драба, настаўніку матэматыкі Більдзюжскай сярэдняй школы Шаркаўшчынскага раёна;

Любові Трафімаўне Крашчонак, майстру вытворчага навучання Віцебскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 57;

Таццяне Анатольеўне Бандарэнка, дырэктару Гомельскай дапаможнай школы № 4;

Святлане Георгіеўне Бунько, майстру вытворчага навучання Гомельскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 67 будаўнікоў;

Людміле Васільеўне Бясклейнай, настаўніку рускай мовы і літаратуры гімназіі Мазыра;

Эме Андрэеўне Гладковай, кіраўніку турысцка-краязнаўчага гуртка Рэчыцкай турбазы;

Ганне Васільеўне Іпатавай, выхавацелю групы падоўжанага дня сярэдняй школы № 2 г.п.Акцябрскі;

Раісе Міхайлаўне Казловай, прафесару кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны, доктару філалагічных навук, прафесару;

Наталлі Львоўне Малашэнка, дырэктару цэнтра развіцця дзіцяці Добруша;

Наталлі Генадзьеўне Тарун, выкладчыку рускай мовы і літаратуры Калінкавіцкага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 184;

Валянціне Аляксееўне Шыманскай, начальніку аддзела кадраў Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута;

Марыне Аляксандраўне Булай, загадчыку Старадварэцкага дзіцячага ясляў-сада Бераставіцкага раёна;

Але Віктараўне Гарон, галоўнаму інспектару аддзела адукацыі Іўеўскага райвыканкама;

Таццяне Уладзіміраўне Жывіца, намесніку дырэктара па вучэбна-вытворчай рабоце Ваўкавыскага педагагічнага каледжа;

Алене Уладзіміраўне Кеўра, намесніку дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Гродзенскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 41;

Ірыне Густаваўне Малаха, настаўніку пачатковых класаў сярэдняй школы № 1 Ашмянаў;

Раісе Барысаўне Мыслівец, настаўніку матэматыкі Жукавіцкай сярэдняй школы Карэліцкага раёна;

Ганне Здзіславаўне Хацкевіч, вядучаму інспектару ўпраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама;

Антаніне Аляксееўне Шанчук, настаўніку англійскай мовы сярэдняй школы № 24 Гродна;

Таццяне Мікалаеўне Андрэевай, загадчыку кафедры тэорыі і практыкі англійскай мовы Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А.А.Куляшова, кандыдату педагагічных навук, дацэнту;

Галіне Аляксандраўне Антоненка, загадчыку ясляў-сада № 28 Магілёва;

Ларысе Аляксееўне Аўрамавай, дырэктару Цэнтра пазашкольнай работы аддзела адукацыі Магілёўскага райвыканкама;

Тамары Сільвестраўне Канюшок, выкладчыку спецыяльных дысцыплін Бабруйскага вышэйшага прафесійнага вучылішча будаўнічага профілю;

Таццяне Аляксандраўне Краўчанка, настаўніку матэматыкі Кароўчынскай сярэдняй школы Дрыбінскага раёна;

Ларысе Міхайлаўне Налівайка, інспектару па кадрах аддзела адукацыі Асіповіцкага райвыканкама;

Людміле Васільеўне Тарасенка, начальніку ўпраўлення бухгалтарскага ўліку і фінансаў Магілёўскага дзяржаўнага тэхнічнага універсітэта;

Але Аляксандраўне Арэшка, загадчыку аддзялення праграміравання Мінскага дзяржаўнага вышэйшага радыётэхнічнага каледжа;

Надзеі Уладзіміраўне Бянькоўскай, настаўніку французскай мовы сярэдняй школы № 74;

Таццяне Віктараўне Валошынай, мастацкаму кіраўніку ўзорнага хора "Дружба" сярэдняй школы № 1;

Наталлі Пятроўне Васюк, намесніку дырэктара спартыўнай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву № 16;

Людміле Віктараўне Гулінай-Галубковай, галоўнаму інспектару аддзела сярэдняй спецыяльнай адукацыі Галоўнага ўпраўлення вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі цэнтральнага апарата;

Наталлі Валянцінаўне Кажэўка, настаўніку хіміі сярэдняй школы № 51;

Анжэліке Андрэеўне Казлоўскай, настаўніку матэматыкі сярэдняй школы № 162;

Людміле Іванаўне Кунцэвіч, намесніку дырэктара па вучэбнай рабоце сярэдняй школы № 45;

Аксане Уладзіміраўне Мякіннік, начальніку юрыдычнага аддзела Галоўнага ўпраўлення аналітычнай і прававой работы цэнтральнага апарата міністэрства;

Галіне Іванаўне Нікалаенка, намесніку дырэктара Мінскага гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў;

Антаніне Аляксееўне Піліпенка, намесніку дырэктара комплекснай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву;

Алене Васільеўне Сафонавай, загадчыку машынапіснага бюро цэнтральнага апарата міністэрства;

Алене Яўгенаўне Багдановіч, выхавацелю дзіцячага сада № 17 пасёлка Лясны Мінскага раёна;

Галіне Уладзіміраўне Калацкай, майстру вытворчага навучання Слуцкага прафесійна-тэхнічнага каледжа перапрацоўчай прамысловасці;

Данусе Валянцінаўне Калечыц, настаўніку матэматыкі Бараўской сярэдняй школы Дзяржынскага раёна;

Ядвізе Браніславаўне Новік, настаўніку рускай мовы і літаратуры Сіняўскай сярэдняй школы Клецкага раёна;

Ніне Міхайлаўне Раменчык, настаўніку пачатковых класаў сярэдняй школы № 3 Любані;

Раісе Яўгенаўне Шумскай, выхавацелю Маладзечанскай санаторнай школы-інтэрната для дзяцей, хворых скаліёзам;

Валянціне Уладзіміраўне Эмільяновіч, настаўніку хіміі і біялогіі Рабунскай сярэдняй школы Вілейскага раёна.







Гэтай невялічкай школцы на ўскрайку Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці сёлета спаўняецца трыццаць гадоў. За гэты час яна набыла свой асабісты выразны твар. Традыцыйным стала выхаванне дзяцей па нацыянальных традыцыях. Існуе цэлы шэраг гурткоў, у якіх дзяцей вучаць тым рамёствам, якія спрадвеку існавалі ў гэтай мясцовасці. Другі год працуе ганчарны гурток, які вядзе Ірына Міхайлаўна Чарніцкая, а вырабы вучняў з гуртка "Саломапляценне і аплікацыя з саломы" Тамары Раманаўны Рагацэвіч вядомы не толькі ў вобласці, але і за яе межамі. Лепшыя творы сабраны ў музеі прыкладной творчасці, дзе яны суседнічаюць з рэчамі, выробленымі колішнімі мясцовымі майстрамі. Але не толькі ў выхаваўчым працэсе выкарыстоўваюць тут нацыянальныя традыцыі, звяртаюцца да культуры народа. Без звароту да яе не абыходзяцца ўрокі гісторыі, роднай мовы і літаратуры. Вельмі цікава праходзяць урокі ў Ганны Іосіфаўны Лапа. Разам з тым яна вядзе ў школе краязнаўчую работу, складае са сваімі вучнямі слоўнік мясцовага дыялекту. Яе вучні не толькі вывучаюць родную мову на павышаным узроўні, але і складаюць на ёй неблагія вершы.

Любоў і павага да нашай спадчыны, нашых нацыянальных традыцый — гэта тое, што аб'ядноўвае тут сёння ўсіх, што робіць гэтую невялічкую школу другім домам, дзе жыве адна вялікая сям'я.

НА ЗДЫМКАХ: Ірына Міхайлаўна Чарніцкая і Дзіма Лавуш падчас заняткаў гуртка мастацкай лепкі; многім вучням прывіла любоў да біялогіі Тамара Раманаўна Рагацэвіч; заняткі ў 10-м класе вядзе Ганна Іосіфаўна Лапа.

**Юрый БОНДАРАЎ.**

# Шаноўныя калегі!

Прыміце сардэчныя віншаванні ад кіраўніцтва галіновага прафсаюза са светлым святам жанчын — 8 Сакавіка.

Мацярынскае цяпло жаночага сэрца, спагада і любоў да дзяцей — гэта тыя састаўляючыя настаўніцкай працы, без якіх немагчымы самыя сучасныя методыкі і інавацыі. Гонар і захапленне ў наш няпросты час выклікаюць Вашы майстэрства, творчасць і самаадданасць. Менавіта яны — аснова поспеху рэформ у сістэме адукацыі.

Мы зычым усім, хто працуе ў нашай галіне, прафесійнага задавальнення і творчай актыўнасці. Няхай будзе плённай Ваша педагагічная біяграфія, няхай спадарожнічаюць Вам прызнанне і ўдзячнасць бацькоў і вучняў.

Галіновы прафсаюз, яго Цэнтральны камітэт і надалей будуць прынцыпова дабівацца на ўсіх узроўнях прыярытэту адукацыі ў дзяржаўнай палітыцы, і перш за ўсё праз захаванне і развіццё сацыяльных гарантый у Законе аб адукацыі, падтрыманне годнага ўзроўню заработнай платы ў галіне.

Дарагія спадарыні!

Светлых Вам пачуццяў і добрага настрою ў святочныя дні. Няхай ніколі не здрадзяць Вам вера, надзея і любоў.

Дабрабыту Вашым сем'ям, жыццёвай бадзёрасці і аптымізму!

**Тамара ЧОБАТАВА,**
**старшыня Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі.**

# Запомніце святыя словы

Аднойчы на шляху жыццёвым
Страчаем лепшую з Жанчын.
Запомніце святыя словы
Усе мужчыны, як адзін:
Каб мілае дзіця прыроды
Квітнела ружай кожны міг,
Не абмяжоўвайце свабоды
Сваіх выбранніц дарагіх.

Жанчыны робяць з нас паэтаў,
Вядуць у неспазнаны свет.
Сярод мудрэйшых запаветаў
Ёсць самы мудры запавет:
Каб быць любімымі заўсёды
І ведаць шчасце кожны міг,
Не абмяжоўвайце свабоды
Сваіх выбранніц дарагіх.

На крылах радасці з Жанчынай
Імклівы абганяем час.
У вечнай песні салаўінай
Пачуйце сэрцам, як наказ:
Каб нам было ў асалоду
Жыццё зямное кожны міг,
Не абмяжоўвайце свабоды
Сваіх выбранніц дарагіх.

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ.**

# Майстар

Маладзенькай дзяўчынай пасля заканчэння дзесяцігодкі Любоў Аляксееўна Коваль прыйшла ў паліграфічнае вучылішча ў групу пераплётчыкаў. Паспяхова скончыўшы вучылішча, была накіравана на працу на Мінскі паліграфічны камбінат імя Я.Коласа. Прапрацаваўшы на камбінаце пяць гадоў і спасцігнуўшы ўсе тонкасці пераплётнай справы, Любоў Аляксееўна вярнулася ў роднае вучылішча ўжо ў якасці майстра вытворчага навучання. І вось ужо больш як чвэрць стагоддзя свае веды, сваё майстэрства, сваю любоў да абранай прафесіі перадае моладзі.

За гэты час шмат маладых дзяўчат атрымалі прафесію пераплётчыка дзякуючы Любові Аляксееўне. І для кожнай з іх яна не проста майстар, а сапраўдны сябар, дарадчык, старэйшая сястра, якая дапамагае сваім выхаванцам знайсці месца ў нашым складаным жыцці. Яна шчыра радуецца поспехам сваіх вучаніц, за што яны ёй плацяць любоўю і павагай.

Любоў Аляксееўна — летуценнік і фантазёр, заўсёды ў руху, жыццярадасная і нястомная. Яна не прымае карысталюбства, абыякавасці, пасіўнасці.

Яе жыццёвае крэда заключаецца ў слове Майстар. Чым бы ні займалася Любоў Аляксееўна — выконвае яна вытворчае заданне ці рыхтуе экспанаты на выставу мастацкай творчасці — усё робіць яна па-майстэрску.

На працягу многіх гадоў Любоў Аляксееўна кіруе гуртком "Фаліянт" пры Рэспубліканскім Доме тэхнічнай творчасці. Работы яе выхаванцаў неаднаразова экспанаваліся на выставах, займалі прызавыя месцы. За сваю працу ў вучылішчы Любоў Аляксееўна ўзнагароджана ганаровымі граматамі ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама. А паводле вынікаў 1999 года Любові Аляксееўне ўручана пасведчанне аб прысуджэнні заахвочвальнай прэміі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў.

**Таццяна СМАРШЧОК,**
**выкладчык Мінскага вышэйшага паліграфічнага вучылішча.**

Шаноўныя мужчыны! Зрабіце прыемны сюрпрыз сваім каханым да 8 Сакавіка — выпішыце для іх "Настаўніцкую газету" на другі квартал 2001 года.

Падпісны кошт на квартал для індывідуальных падпісчыкаў — 1650 рублёў, па ведамаснай падпісцы — 3555 рублёў.

**Ваша газета заўсёды з вамі!**

Паведамляе прэс-цэнтр Міністэрства адукацыі

# Што, дзе, калі адбудзецца ў сакавіку

**11 сакавіка** Рэспубліканскі экалагічны цэнтр дзяцей і юнацтва праводзіць Свята птушак.

**12 — 14 сакавіка** кіраўнікі метадычных аб'яднанняў сацыяльных педагогаў прымуць удзел у рэспубліканскім семінары "Агульнае і асаблівае ў сацыяльным выхаванні дзяцей і падлеткаў ва ўстановах сістэмы адукацыі", які адбудзецца ў Нацыянальным цэнтры творчасці дзяцей і моладзі.

**13 — 15 сакавіка** ў Рэспубліканскім экалагічным цэнтры дзяцей і юнацтва адбудзецца рэспубліканскі семінар "Культуралагічныя аспекты экалагічнай адукацыі".

**14-15 сакавіка** ў Барысаўскім дзяржаўным політэхнічным каледжы праводзіцца рэспубліканскі семінар-практыкум "Сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі ў сістэме сярэдняй спецыяльнай адукацыі".

**14 — 16 сакавіка** Рэспубліканскі цэнтр турызму і краязнаўства праводзіць у Гомелі рэспубліканскі семінар кіраўнікоў музеяў воінскай славы вучэбна-выхаваўчых устаноў.

**14 — 17 сакавіка** на базе Гродзенскага абласнога цэнтра тэхнічнай творчасці навучэнцаў будуць праходзіць рэспубліканскія спаборніцтвы па суднамадэльнаму спорту (1 этап).

**14-15 сакавіка** Прэзідыум Беларускай асацыяцыі дырэктараў школ праводзіць на базе Гродзенскага раённага аддзела адукацыі майстар-клас інавацыйнага кіравання ў школе.

**15 сакавіка** ў школах 32 краін СНД, Еўропы і Лацінскай Амерыкі будзе праводзіцца міжнародны матэматычны конкурс "Кенгуру".

**15-16 сакавіка** ў Нацыянальным цэнтры творчасці дзяцей і моладзі будзе працаваць пастаянна дзеючая творчая лабараторыя кіраўнікоў аб'яднанняў маладшых школьнікаў.

**16 сакавіка** Міністэрства адукацыі праводзіць пасяджэнне калегіі па пытанні "Аб плане падрыхтоўкі і правядзення II з'езда настаўнікаў Рэспублікі Беларусь".

**16 — 18 сакавіка** ў Рэспубліканскім цэнтры мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" пройдзе рэспубліканскі фестываль аўтарскай песні навучэнскай моладзі ПТВ і ССНУ "Маладыя галасы".

**19 — 22 сакавіка** на базе Гомельскага дзяржаўнага універсітэта праводзіцца IV рэспубліканская навуковая канферэнцыя студэнтаў і аспірантаў "Новыя матэматычныя метады і камп'ютэрныя тэхналогіі ў праектаванні, вытворчасці і навуковых даследаваннях".

**21 — 23 сакавіка** ў Полацкім педагагічным каледжы імя Ф.Скарыны адбудзецца рэспубліканскі тур алімпіяды па хіміі і біялогіі.

**З 22 па 29 сакавіка** Народны ансамбль танца "Белая Русь" Рэспубліканскага цэнтра мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" будзе ўдзельнічаць у запісе тэлевізійнай праграмы "Ранішняя зорка" ў Маскве.

**24 — 26 сакавіка** ў Рэспубліканскім экалагічным цэнтры дзяцей і юнацтва будзе працаваць рэспубліканская экалагічная школа, а таксама будуць праходзіць зборы Беларускай малой лясной завочнай акадэміі.

**26 — 29 сакавіка** на базе Мазырскага політэхнічнага тэхнікума пройдзе рэспубліканскі тур алімпіяды па рускай мове і літаратуры.

**26 — 30 сакавіка** ў Рэспубліканскім экалагічным цэнтры дзяцей і юнацтва будзе працаваць рэспубліканская школа юных фермераў.

**З 26 па 31 сакавіка** ў Віцебску, Гродне, Магілёве, Мінску, Маладзечне і Баранавічах будуць праходзіць рэспубліканскія прадметныя алімпіяды школьнікаў (па 15 прадметах).

**27 — 28 сакавіка** Рэспубліканскі цэнтр тэхнічнай творчасці навучэнцаў праводзіць адкрытыя рэспубліканскія спаборніцтвы па авіямадэльнаму спорту ў класе мадэляў F-2B пілатажных і F-2Д "Паветраны бой" на прыз цэнтра.

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі
Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс ______ індэкс выдання

**Настаўніцкая газета**
(назва выдання)

Колькасць камплектаў

На **2001** год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА** на газету / часопіс ______ індэкс выдання

ПВ | месца | літар

**Настаўніцкая газета**
(назва выдання)

Кошт: падпіскі ______ руб. ; пераадрасоўкі ______ руб.

Колькасць камплектаў

На **2001** год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

# Адкрыйце душу вясне...

ЗІМА нарэшце вырашыла паказаць свой спрадвечны нораў: закруціла кадрылю завеяў, намяла курганы ля платоў, дала вольную вятрам-прайдзісветам. І панесліся яны па дарогах, загукалі, спрабуючы посвістам забіяцкім загнаць сонейка ў шэрань цяжкіх хмар. Але не, нельга супрацьстаяць мудрасці прыроды: вясна ўжо адчуваецца ва ўсім. І ў вясёлай просіні неба, і ў здзеклівай лужыне расталага снегу, і ў жмурастым позірку сонца і... у памаладзеўшых, пасвятлеўшых тварах людзей, асабліва жанчын, якім вясна дорыць непаўторнае свята — 8 Сакавіка. А яно, у сваю чаргу, тоіць у сабе неспадзяваныя сюрпрызы, радасць чакання нечага непаўторнага, хвалюючага, светлага. Уяўляю сабе атмасферу дзіўнай святочнасці, якая будзе панаваць паўсюдна: на вуліцах, у магазінах, у кватэрах. Ужо загадзя чую словы віншаванняў ад незнаёмых і знаёмых мужчын, ад якіх цяплее душа жанчыны. І, канешне, ніхто і ніхто не заменіць шчырасці дзіцячых вачанят, што сустрэнуць у гэты дзень сваю любімую настаўніцу, усхвалявана скажуць даўно падрыхтаваныя словы, падораць падпісаную самымі дарагімі ў свеце словамі паштовачку. Па-другому заззяе ад гэтай шчырасці школа, і не адзін дзень будзе лунаць у яе класах і калідорах дзіцячая непасрэднасць, напоўненая адкрытасцю і цеплынёю. Як бы складана і цяжка ні было сёння мілым прадстаўніцам адукацыі, хочацца ўсіх іх агарнуць ласкай вясновай пяшчоты, сказаць: "Адкрыйце душу вясне, знайдзіце ў бязмежным блакіце нябёсаў дзівоснае, шчаслівае, абнадзейваючае імгненне заўтрашняга дабрабыту і задаволенасці. Услухайцеся, і вы пачуеце, як ажывае лес, поўніцца птушынымі галасамі, а ў іх — шчырая радасць, хваляванне, надзея. Дзіўнымі пададуцца сарамліва-сонечныя ранкі, перасыпаныя звонам руплівых ручайкоў, непаўторных у сваім пяшчотным ззянні. А ў паветры — аж кружыцца галава — чысцюткай крынічкай, усімі ноткамі душы і сэрца лунае Каханне. Нездарма ж Вясна — жаночага роду і з'яўляецца сімвалам дзявочай прыгажосці. Чуеце: тук-тук, тук-тук. Гэта дзяцел дасылае пазыўныя каханай. А, можа, Вам? Спыніцеся, не старэйце пачуццямі".

**Ты паклікаў мяне на сустрэчу**
**Пасля стольКіх гадоў маўчання...**
**Аддзяляе нас, можа, вечнасць**
**Ад апошніх хвілін спаткання.**
**Ты паклікаў мяне на сустрэчу**
**З маладым дарагім успамінам...**
**І застаўся той зімні вечар**
**Самай светлай для сэрца гадзінай.**
**Ты паклікаў мяне на сустрэчу...**
**І хвалююся я, і чакаю.**
**А ў душы крочыць мукай адвечнай**
**Шчасце побач з жаночым адчаем.**

Чуеце, як звонкімі галасамі пераклікаюцца фарсістыя снегіры? І галасы тыя — адвечны прызыў да каханай:

**Не адчувай сябе застыўшай у пачуццях,**
**Прашу цябе, малю — не адчувай,**
**Бо суджана яшчэ адчуць ім,**
**Як расцвіце ў сэрцы май,**
**Як подыху чысцюткага кахання,**
**Адклікнецца збалелая душа,**
**І будуць, як калісьці, спадзяванні**
**Сны адзіноты радасцю ўзрушаць.**

Сярод гэтага шчаслівага хору зязюлька адлічвае гады спадзяваннем адзінокае жанчыны:

**Маўчанню майму не вер:**
**Не крыўду яно азначае —**
**Проста даўні жаночы манер:**
**Няхай памучыцца, пачакае...**
**А сэрца імкнецца на кожны званок,**
**Ён быццам выбух у ціхай кватэры!**
**А на стале, як пачуццям папрок,**
**Аркуш некрануты бялюткай паперы.**
**Вазьму вось і здраджу маралі сваёй,**
**Табе напішу, як душы самотна.**
**Не вер, што маўчанне маё — спакой.**
**Пішы, звані, чалавек мой родны.**
**І звіняць галасы, і поўніцца песняй сэрцаў наваколле.**

Адгукніцеся ёй, адчуйце сябе шчаслівымі, бо кожная з вас носіць у душы сваёй прызнанне:

**Усё ў гэтым слове "ты":**
**І сонца, і дождж, і вецер,**
**І шчасце не можа астыць,**
**Бо ты ў мяне ёсць на свеце...**
**Не страшны з табою мне гром,**
**Ні сцюжы, ні гнеў ліхалеццяў,**
**Адчаю, трывог перазвон,**
**Бо ты ў мяне ёсць на свеце.**
**І нават у змрочныя дні**
**Мне радасцю сонейка свеціць,**
**Бо поўніцца сэрца адным,**
**Што ты ў мяне ёсць на свеце!**

А калі раптам горыч і адчай пазбавіць спакою:

**Не пакутуй і не плач. Не трэба.**
**Сілы лепш у радасці шукаць.**
**Паглядзі, як лагаднее неба,**
**Калі промні сонца зіхацяць,**
**Як хмурынка меншае, святлее,**
**Спыніўшы крышталікі дажджу,**
**Сцішыць гнеў спякотны сухавеяў,**
**Разарве туманаў паранджу.**
**Вось і ты пяшчотай засвяціся,**
**Дзень свой зоркай дабрыні зазнач,**
**Блізкім і знаёмым усміхніся.**
**Не пакутуй. Не адчайвайся. Не плач.**

Родныя, мілыя, мужныя і цярплівыя, прыгожыя і нястомныя, Мадонны сённяшняга дня! Адкрыйце сваю душу Вясне, і яна падорыць вам малітву Любові, Надзеі, Аптымізму, такую простую і мудрую ў сэнсе:

**Паверце мне, любыя, шчасце не страчана:**
**Чакаюць вас пошукі, мары, сустрэчы,**
**А лёс ваш, жанчыны, пяцёркай зазначаны,**
**Надзеяю ззяе: "Яшчэ не вечар!"**
**Знайдзіце ў жыцці вы адзіны той стымул.**
**Кахаць каб умелі і звонка смяяцца.**
**Галоўнае ў тым, каб душа не застыла**
**І не жадала гадам паддавацца.**
**Светлай радасцю дні напоўняцца,**
**Стануць песняй у буднях адвечных.**
**Дык няхай жа жаданні спаўняцца!**
**Яшчэ не вечар. Яшчэ не вечар!**

Віншую Вас са святам!

**Галіна КАЛТУНОВА,**
**намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце сярэдняй школы № 1 Карэлічаў.**

# "Паглядзіце ў дзіцячыя вочы"

***У горадзе, сярод мноства людзей, Людміла Самуілаўна Кандрацьева прыкметная сваёй інтэлігентнай і абаяльнай знешнасцю. У калег па сумеснай працы ў Слонімскай санаторнай школе-інтэрнаце яна таксама выклікае захапленне. Нядаўна парадавала ўсіх званнем "Лепшы псіхолаг года", якое атрымала, удзельнічаючы ў першым рэспубліканскім конкурсе сярод педагогаў-псіхолагаў.***

Перамогу прынеслі прыродныя дараванні: тонкі гумар, паэтычныя і музычныя здольнасці. Яна ўмее весці дыялог з кожным чалавекам. А як цікава і вобразна Людміла Самуілаўна ўмее расказваць. Жанчына ўспамінала конкурс, а я смяялася. Нават уявіла, з якім захапленнем журы слухала яе эпіграмы і здзіўлялася незвычайнай эрудыцыі. Відаць, хваляванне таксама прыдало ёй пэўны шарм, калі яна расказвала пра варону і варанят, якія прылятаюць да яе за пачастункамі.

...Калісьці ў дзяцінстве яе старэнькая настаўніца музыкі, сваячка знакамітых братоў Крыцкіх, пра якіх Герцэн пісаў у рамане "Былое и думы", сказала: "Вучы, Люся, музыку і мовы! Любі іх, чытай разумныя кнігі. Калі-небудзь усё, што ты ведаеш, спатрэбіцца табе і людзям". Так і здарылася.

Пайсці "ў псіхолагі" Людміле Самуілаўне параілі калегі, якія ведалі яе вытрыманы, спакойны і таварыскі характар. Настаўніца замежнай мовы прыняла прапанову без асабістых ваганняў. Дарэчы, тут Людміла Самуілаўна таксама непараўнальная. Яна ведае некалькі замежных моў: французскую, англійскую, нямецкую, італьянскую, іспанскую, польскую. На некалькіх з іх чытае літаратуру ў арыгіналах. Вельмі любіць творы беларускіх пісьменнікаў.

— Вучыцца ў сталым узросце нават цікава, — прызнаецца Людміла Самуілаўна.

Упартасць у вучобе, імкненне пашырыць свой кругагляд дасталіся ёй ад бацькі, кандыдата тэхнічных навук Самуіла Рубінавіча Фарбера, вядомага і паважанага ў горадзе чалавека.

У Рэспубліканскім інстытуце прафесійнай адукацыі Людміла Кандрацьева не прапусціла ніводнай лекцыі. Выкладчыкі звярнулі ўвагу на яе зацікаўленасць псіхалогіяй і параілі паступіць у аспірантуру суіскальніцай. Здаецца, ёй наканавана быць вучоным у гэтай галіне. Людміла Самуілаўна настроена стаць кандыдатам псіхалагічных навук. Тэма яе дысертацыі — "Псіхалагічная адаптацыя падлеткаў з фізічнымі і саматычнымі асаблівасцямі развіцця".

Цяпер Л.С.Кандрацьева працуе ў санаторнай школе-інтэрнаце. Тут, як нідзе, дзецям патрэбны ўвага, чуласць. Не ўсе лёгка пераносяць разлуку з домам. Шчыра скажу: выхаванцам пашанцавала на такога цудоўнага педагога. Нездарма жартам і ўсур'ёз дзеці называюць псіхолага "школьнай валяр'янкай". Яна суцешыць, падбадзёрыць, прыдасць упэўненасць. Акрамя гэтага, яна ўмее дапамагаць дзецям спраўляцца з эмоцыямі, вызначыць і развіць іх здольнасці, вучыць іх рабіць правільны выбар. Вельмі важна, што побач з дзецьмі ёсць чалавек, які дапамагае пераадолець цяжкія жыццёвыя сітуацыі.

Людміла Самуілаўна добра ведае ўсе дзіцячыя праблемы. Яе непакояць адносіны ў сем'ях, слабая зацікаўленасць дзяцей у вучобе, няўпэўненасць падлеткаў у заўтрашнім дні. У многіх дзіцячых праблемах вінаваты дарослыя, якія мала часу аддаюць дзецям. А яны, на думку псіхолага, не такія ўжо дрэнныя, як часам нам здаецца. Галоўнае, не трэба з імі фальшывіць. Трэба часцей глядзець дзецям у вочы, гаварыць пяшчотныя словы, бачыць у кожным з іх асобу.

Выхаваўшы сваіх дзяцей (а ў Людмілы Самуілаўны два дарослыя цудоўныя сыны) і набыўшы вопыт у псіхалагічным выхаванні, Л.С.Кандрацьева раіць бацькам пазбавіцца залішняй катэгарычнасці і імкнення навязваць дзецям свае жаданні.

Яна стала іншай дзякуючы свайму новаму прызванню. У яе з'явілася многа такога, што любяць дзеці. А яны яе любяць. Гэта пацвярджалі малюнкі, якія былі прысвечаны педагогу-псіхолагу, а таксама інтэрв'ю, што правялі работнікі дыягностыка-рэабілітацыйнага цэнтра.

Яна кансультуе школьнікаў, а таксама педагогаў. Вядзе індывідуальныя і групавыя карэкцыйныя заняткі. Выкарыстоўвае ў рабоце дзіцячыя фантазіі і малюнкі, вершы і сачыненні, калекцыю каменняў і многае іншае.

Жыццёвай мудрасці Людміла Кандрацьева вучыцца ў свайго бацькі, якога вельмі шануе і паважае. Яна мае многа сяброў. У кожнага з іх ёсць нешта сваё для пераймання. Многае яна ўзяла ад сваіх настаўнікаў Л.К.Наумавай, Н.М.Галубоўскай, Е.А.Марчык.

У Кандрацьевай шмат сяброў сярод калег-псіхолагаў. Яе натхняльнікам у жыцці і верным спадарожнікам стаў муж Уладзімір Пятровіч, падпалкоўнік у адстаўцы. Менавіта ён падтрымлівае Людмілу Самуілаўну ў яе новых пачынаннях і запальвае зялёны агеньчык для здзяйснення ўсіх задум.

Праглядаючы яе творчыя работы, я задумалася над словамі:

Смотрю сердцем
в детские глаза...
Если грянет вдруг
душевная гроза...

Не сумняваюся, калі сэрца з дзецьмі — гэты чалавек ім заўсёды дапаможа.

**Аліна ЧАРНЫШ.**

Слонім.

# "Ганаруся сваімі сынамі"

***Кожны раз, узгадваючы свайго гаспадара, Людміла Мікалаеўна са своеасаблівымі ноткамі суму і горычы ў голасе гаворыць пра Мікалая Ануфрыевіча, неаднаразова заўважае, што павага да бацькі, яго неаспрэчныя парады і ўказанні — было святым у сям'і.***

Мінула ўсяго некалькі гадоў, як Мікалай Ануфрыевіч пайшоў з жыцця, не дажыўшы двух тыдняў да пяцідзесяці. Гэты сціплы, сумленны, працавіты чалавек пакінуў пасля сябе добры след на зямлі. Яго педагагічную справу працягваюць сёння жонка, двое сыноў і дачка.

Мікалай Ануфрыевіч родам з вядомай на Беларусі вёскі Нізок Уздзенскага раёна Міншчыны. Так, з той самай, што дала свету Паўлюка Труса, Кандрата Крапіву, Лідзію Арабей і многіх іншых знакамітых людзей нашай Бацькаўшчыны. Маці М.А.Труса ўсё свядомае жыццё настаўнічала. Любоў да гэтай нялёгкай прафесіі яна прывіла і свайму сыну. Мікалай стаў географам, са сваёй будучай палавінай пазнаёміцца ў Пінску. Брат жонкі Васіль — кандыдат філалагічных навук, працуе ў Брэсце.

Затым сям'я пераехала на радзіму Людмілы Мікалаеўны на Капыльшчыну. "Школа, настаўніцтва — маё прызванне", — так сцвярджаў Мікалай Ануфрыевіч.

Гэтыя словы былі падмацаваны канкрэтнымі справамі, знайшлі свой працяг у дзецях Мікалая. Васіль і Наталля з залатымі медалямі закончылі Старыцкую сярэднюю школу. Хлопцы, як і бацька, сталі настаўнікамі геграфіі, Наталля выкладае родную мову і літаратуру ў адной са сталічных школ.

Мікалай Ануфрыевіч узначальваў Камсамольскую сярэднюю школу, старшы сын Мікалай Мікалаевіч ужо сем гадоў — Быстрыцкую сярэднюю. А калі М.А.Трус незадоўга да смерці пайшоў працаваць старшынёй праўлення мясцовага калгаса, яго замяніў і паспяхова кіруе школай малодшы сын Васіль Мікалаевіч.

У гэту школу ў Камсамольскім заўсёды прыемна зайсці. Тыпавая трохпавярхоўка ззяе і знадворку, і ў сярэдзіне. Сам Васіль Мікалаевіч — майстар на ўсе рукі. Разам з настаўнікам тэхнічнай працы Сяргеем Мікалаевічам Тупекам ён вырабіў дванаццаць камплектаў для школьнай сталовай, з Мікалаем Мікалаевічам Громавым пераабсталёўвае музей, робіць вітрыны для прадметных насценных газет, дапамагае афармляць кабінеты, бо сам прыгожа піша і малюе.

— Я ганаруся сваімі сынамі — дырэктарамі, — кажа маці Людміла Мікалаеўна і працягвае, — цікаўлюся іх справамі, хачу, каб яны ва ўсім былі першымі! А яшчэ — гэткімі ж карэктнымі з калегамі і акружаючымі, як іх тата. Людзі цяпер вельмі ранімыя.

Часта збіраюцца дзеці ў бацькоўскай хаце ў Камсамольскім, дзеляцца сваімі поспехамі, расказваюць аб праблемах. А іх хапае. Але лепшага ўсё ж больш.

Загадчыца аддзела адукацыі райвыканкама Марыя Леанідаўна Сандрозд ускладае вялікую надзею на маладых кіраўнікоў. Яна, напрыклад, задаволена, што М.М.Трус у Быстрыцкай сярэдняй школе зрабіў сёлета ладны кавалак работы ў час падрыхтоўкі адзінаццацігодкі да новага навучальнага года: змяніў сантэхніку, памяняў дзверы і г.д.

У Камсамольскую сярэднюю школу едуць кіраўнікі і педагогі Капыльшчыны павучыцца афармленню дакументацыі, эстэтычнаму аздабленню класаў і кабінетаў, прышкольнай тэрыторыі, пераняць вопыт настаўніцы фізікі Алены Аляксандраўны Громавай, біёлага Валянціны Іосіфаўны Пракапені, настаўніц пачатковых класаў Тамары Феадосьеўны Талюк, Людмілы Мікалаеўны Трус і іншых. Часта ў школе наладжваюцца пасяджэнні раённых метадычных аб'яднанняў, прайшлі абласны семінар намеснікаў загадчыкаў райана, шматлікія раённыя мерапрыемствы.

Быстрыцкая сярэдняя школа — адна з самых вялікіх па колькасці вучняў на Капыльшчыне, у Камсамольскай — крыху больш 120 чалавек. Так, сельскае насельніцтва памяншаецца, адпаведна менш становіцца і дзяцей. Але вясковыя настаўнікі з уласцівымі ім энергіяй і энтузіязмам працягваюць шчыраваць аддана, з душой.

**Мікалай ЛОСІК.**

# А колькі творчых задум!

Напярэдадні жаночага свята заўсёды настройваешся на лірычны лад. У памяці ўзнікаюць цудоўныя купалаўскія радкі:

*На беларускую дзяўчыну,*
*Калі тут праўду ёй аддаць,*
*Ніхто шчэ каменем не кінуў,*
*І не наважыцца кідаць.*

Хораша, проста, па-філасофску.

Сапраўды, беларускія жанчыны заслугоўваюць самых добрых слоў.

У сувязі з гэтым хочацца нагадаць пра выкладчыцу музыкі мінскага педагагічнага каледжа імя М.Танка Святлану Мікалаеўну Багданкевіч.

Святлана Мікалаеўна працуе ў каледжы бяззменна, адразу ж пасля заканчэння Мінскага педінстытута, факультэта, які даваў права выкладаць літаратуру і музыку.

Ужо не за гарамі канец афіцыйна пазначанага тэрміну яе працы ў каледжы, аднак асаблівай стомленасці ад улюбёнага занятку яна не адчувае.

Колькі яе былых студэнтаў працуюць выкладчыкамі спеваў у школах, музычнымі работнікамі ў дзіцячых садах. А колькі творчых задум па ўдасканаленні заняткаў на музычным аддзяленні каледжа. У прыватнасці, яна падзялілася "сакрэтам", што стварае нотную бібліятэку беларускай музыкі эпохі сярэднявечча.

Яе прыроджаная інтэлігентнасць, эрудыцыя, настаўніцкі талент, улюбёнасць у беларускую мову (прадмет Святлана Мікалаеўна выкладае па-беларуску) здабылі ёй павагу ў выкладчыцкім і студэнцкім асяроддзі.

Адзін знаёмы літаратар, які прычыніўся да яе ўрока — прыняў у ім непасрэдны ўдзел, расказваў:

— Мяне ўразіла дасведчанасць студэнтаў Святланы Мікалаеўны ў літаратуры, гісторыі краіны, музыцы. Пра гэта найперш сведчылі іх пытанні, рэакцыя на адказы, палемічныя, па-юнацку шчырыя і непасрэдныя развагі ўслых.

Каторы год Святлана Мікалаеўна ўзначальвае ў каледжы літаратурнае аб'яднанне "Рунь", вобразна кажучы, апякуецца над паэтычнымі парасткамі. Тут, трэба зазначыць, ёй дапамагае выкладчык і паэт Ігар Лосік.

Мабыць, Святлана Мікалаеўна і сама не навічок у паэзіі, нездарма ж яе радзіма — Стаўбцоўшчына. Яе паэтычныя творы змяшчаў і змяшчае рэспубліканскі друк.

Нягучным і шчырым, у мяккіх танах мне падаўся прапанаваны ўвазе чытачоў "Настаўніцкай газеты" верш "Напрадвесні" — лірычны абразок:

*Неба долы засявае*
*Крупкамі нябеснай манкі,*
*Сонца сонна паглядае,*
*Бы з акенца, з-за фіранкі.*

*Белыя пялёны сыдуць*
*Новай, светлаю парою.*
*Божыя пасевы ўзыдуць*
*Новай, свежаю травою.*

**Уладзімір НОВІК.**

# Нашы надзеі апраўдаліся

***Нагода, якая выклікала ў нас жаданне напісаць у газету, — звычайная і незвычайная. Ад імя бацькоў усіх дзяцей, якія вучацца ў гімназіі № 1 Віцебска, нам хочацца павіншаваць настаўнікаў гімназіі з высокай ацэнкай іх працы і дасягненняў у духоўным выхаванні нашых дзяцей.***

У гонар святкавання надыходу трэцяга тысячагоддзя і 2000-годдзя Хрысціянства лепшыя з лепшых у Рэспубліцы Беларусь калектывы і асобы, якія ўнеслі важкі ўклад у выхаванне духоўнасці, былі ўзнагароджаны памятным знакам за духоўнае адраджэнне. Сярод гэтых калектываў і гімназія № 1 Віцебска.

Мы ганарымся, што нашы дзеці атрымліваюць добрыя веды, выхоўваюцца ў атмасферы творчасці, добразычлівасці, сапраўднай інтэлігентнасці. Калі мы аддавалі сваіх дзяцей у першую гімназію, мы ведалі, што гэта навучальная ўстанова вядома ў горадзе сваім асаблівым мікракліматам, што тут вучаць дзяцей па-сапраўднаму сябраваць, быць прыгожымі ў паводзінах і ў быце. І, вядома ж, даюць добрыя веды. Мы чулі пра асаблівыя, шчырыя адносіны да дзяцей.

Нашы надзеі не толькі апраўдаліся, але пераўзышлі саміх сябе.

Мы бачым, як многа ўвагі надаецца ў гімназіі рабоце з адоранымі вучнямі, як паважліва, карпатліва ставяцца настаўнікі да тых, каму не заўсёды і не ўсё лёгка даецца.

Нашы дзеці ў гімназіі з энтузіязмам, паглыблена вывучаюць англійскую мову, захапляюцца астраноміяй, наведваюць клуб бардаўскай песні і студыю бальных танцаў (і нават займаюць прызавыя месцы ў краіне).

З вялікай узнагародай, дарагія настаўнікі! Жадаем Вам новых поспехаў.

**Ад імя бацькоў**
**Галіна ДАРАНЦОВА**
**і Марына КЛІМАВА.**

# Што робіць жыццё шчаслівым

***...Маленькая зграбная фігурка, валасы крыху кранутыя сівізной, жывыя, молада бліскучыя вочы, лёгкая паходка — прывабнасць жаноцкасці ў спалучэнні з дастойнай, упэўненай манерай падаваць сябе — такой паўстае перад сваімі калегамі і падначаленымі намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце Каменскай сярэдняй школы Шчучынскага раёна Галіна Сяргееўна Кузняцова.***

Не адразу, з гадамі, з нясмелай дзяўчыны вырас умелы арганізатар, кіраўнік, чый аўтарытэт заваяваны працай, любоўю да людзей, душэўнай чысцінёй і сардэчнасцю — лепшымі якасцямі, якімі можа валодаць сапраўдны педагог. Але ці не супярэчаць адно аднаму гэтыя два імкненні: служыць адукацыі, дзецям і адначасова — уласнай сям'і?

Можна сцвярджаць, што высокі аўтарытэт і заснаванае на ім пачуццё ўласнай годнасці педагога-прафесіянала дапамагаюць ёй і ў сям'і як маці і жонцы набыць спакойную ўпэўненасць, здольнасць разумна і немітусліва вырашаць праблемы; тую жаночую мудрасць, якой часта не хапае добрым, мілым, старанным, але цалкам захопленым хатнімі клопатамі гаспадыням.

...Дзіця ідзе ў першы клас. Хвалюючая, урачыстая падзея. І разам з бацькамі да яе рыхтуецца ўся школа, усе настаўнікі. Урачыста ўручаюць першакласнікам школьныя прылады, кветкі, кнігі, цукеркі. Штогод праходзяць конкурсы дзіцячай творчасці. А яшчэ існуе традыцыя — Дзень адкрытых дзвярэй, калі бацькі могуць прыйсці ў школу, наведаць урокі, пагутарыць з настаўнікамі. Цікава ў школе праходзяць дні самакіравання. І ва ўсіх гэтых падзеях і справах галоўная дзеючая асоба — Галіна Сяргееўна Кузняцова.

"Два колы" жыцця жанчыны — асабістае і грамадскае. Выкіньце адно (усё роўна якое) — і роўна ўдвая паменшае ў яе жыцці радасці, хвалявання, цікавасці як да сваёй высакароднай працы, так і ўвогуле да ўсяго жыцця. І толькі "два колы", што коцяцца разам, дапамагаючы адно аднаму, робяць яе жыццё шчаслівым.

**Ірына БЕКІШ,**
**педагог.**

в.Каменка, Шчучынскі раён.



# І стала Беларусь радзімай

***Так сказала мне пра сябе былая настаўніца гарадской школы № 1 Старыя Дарогі Валянціна Яфімаўна Кулакоўская і патлумачыла:***

***— Сама я руская, нарадзілася непадалёку ад Ленінграда. У 1952 годзе пераехала на Міншчыну, у Старыя Дарогі, на радзіму мужа. І прыжылася, бо тут добрыя людзі, якія дапамогуць у бядзе, парадуюцца тваім поспехам.***

Але не лёгкі лёс быў у гэтай настаўніцы. Шмат гора перажыла Валянціна Яфімаўна, 69-гадовая жанчына.

...Нарадзілася Валянціна Зубава (такое яе прозвішча было ў дзявоцтве) у сялянскай сям'і, паблізу горада Кінгісепа, што ў 25 кіламетрах ад Нарвы.

Бацькі працавалі ў калгасе. І вось аднойчы, у Іванаў дзень, калі яны былі на рабоце, у вёсцы, дзе нарадзілася Валянціна Зубава, здарыўся пажар. Было знішчана паўвёскі. Сям'я дзяўчынкі засталася без нічога. Добра, што людзі дапамаглі адзеннем і адбудавацца. Ды і бацька быў добрым цесляром.

Але не паспелі трохі абжыцца, як пачалася Вялікая Айчынная вайна. Разам са сваімі блізкімі дзевяцігадовая Валянціна перажыла ўсе жахі нямецкай акупацыі. Пасля вайны разам з сяброўкай Эльвірай і суседскім хлопчыкам Барысам хадзіла за дзесяць кіламетраў у Кацельскую школу і здолела закончыць яе.

Затым Валянціна, закончыўшы на выдатна Гатчынскае педвучылішча, без экзаменаў была прынята ў Ленінградскі настаўніцкі інстытут.

Студэнцкія гады былі нялёгкія, жыла ў інтэрнаце, дзе ў пакоях было спачатку па 25, пазней па 11 і па 7 чалавек. І поўнае самаабслугоўванне: торфабрыкет насілі, грубкі тапілі, убіралі, што мелі з прадуктаў, варылі ў звычайнай сялянскай печцы. Хлеб быў па картачках. Наядаліся добра, калі накіроўваліся ў калгас на ўборку бульбы.

На работу была накіравана ў Кірышскі раён выкладчыцай рускай мовы і літаратуры. У гэты час і сустрэла дзяўчына свой лёс — салдата-беларуса Мікалая Кулакоўскага, за якога выйшла замуж. Ён і ўгаварыў яе пераехаць на яго радзіму, на Старадарожчыну.

Валянціна Яфімаўна добра запомніла загадчыка райаддзела адукацыі Аркадзя Ільіча Галубіцкага, які ў сярэдзіне навучальнага года (у пачатку 1954) прыязна сустрэў настаўніцу з двухгадовым стажам і сказаў:

— Накіроўваем у гарадскую школу № 1 настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў пятыя — сёмыя класы. І даручаем неспакойны шосты клас, будзеце там класным кіраўніком.

Няпроста было ў той час маладой настаўніцы. Груднога сына аддала ў яслі, а ў перапынак паміж урокамі бегала яго карміць. Класы ў той час знаходзіліся ў розных месцах горада, заняткі ў дзве змены, а ў класах па 40 вучняў. Гэта ж колькі сшыткаў неабходна было праверыць кожны вечар! Святло не гасла ў хаце да дзвюх гадзін ночы.

— Але ўсё вытрымаеш, калі любіш дзяцей і работа ў радасць, — гаворыць Валянціна Яфімаўна.

Ганаровы грамадзянін горада Старыя Дарогі Марыя Фёдараўна Маліноўская, былая дырэктар школы № 1, расказвае:

— Валянціна Яфімаўна была добрай настаўніцай, цікавымі і грунтоўнымі былі яе ўрокі. Дзеці яе любілі. Напэўна таму, што сама іх любіла, умела знайсці да іх падыход. Як класным кіраўніком вучні былі ёю вельмі задаволены. І сыны ў яе добрыя.

Валянціна Яфімаўна не толькі вучыла дзяцей, але і вучылася сама ў старэйшых калег па працы. З падзякай успамінае былога яна завуча школы Івана Міхайлавіча Трафімовіча і яго жонку Валянціну Міхайлаўну Трус, таксама выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры. Колькі ўрокаў яна ў іх наведала, пераймаючы вопыт у рабоце, майстэрства ўзаемаадносін з дзецьмі.

І дабілася адпаведных поспехаў. У школе паміж класамі праводзілася спаборніцтва на лепшы клас. Класы, у якіх працавала Валянціна Яфімаўна, выходзілі пераможцамі. Вядома ж, тут патрэбна было самае галоўнае — зацікаўленасць самога класнага кіраўніка ў рабоце з дзецьмі і да ўрокаў, і пасля іх.

Заглядвае час ад часу настаўніца-ветэран у сваю школу. Не забываюць яе былыя вучні. Калі захварэла, то не адыходзіла ад ложка калега Таццяна Уладзіміраўна Дамарад, яе былая выхаванка. Былыя калегі па школе, калі доўга не бачаць Валянціну Яфімаўну, тэлефануюць ёй, цікавяцца здароўем.

Разам з В.Я.Кулакоўскай перагортваю яе працоўную кніжку, Ганаровыя граматы, іншыя заахвочванні — іх нямала запісана ў "паслужным спісе" Валянціны Яфімаўны.

**Анатоль БАРЫС.**

# Шчаслівага шляху да чытача!

*Гэтае выслоўе літаральна гучала ва ўтульнай канферэнц-зале Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны падчас прэзентацыі кнігі яго дырэктара, кандыдата філалагічных навук Любові Уладыкоўскай-Канаплянік "Акварэлі любові", з падзагалоўкам "Канцэпцыя нацыянальнага светапогляду ў творчасці Янкі Лучыны".*

*Яго агучыў адзін з настаўнікаў Любові Мікалаеўны, навукоўца, супрацоўнік Інстытута літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Уладзімір Мархель.*

Прысутнічаў і лірычны элемент. Словы высокага акадэмічнага стылю перамяжоўваліся з азначэннямі такога зместу:

— Пярэдадзень вясны. Жанчына па імені Любоў напісала кнігу "Акварэлі любові", выйшла яна ў свет, да таго ж, у пярэдадзень 8 Сакавіка.

Якое выдатнае супадзенне на карысць творчасці Янкі Лучыны (Івана Люцыянавіча Неслухоўскага), беларускага паэта, перакладчыка, сучасніка Ф.Багушэвіча, які прычыніўся ею да падрыхтоўкі адраджэнскага ўздыму беларускай літаратуры на пачатку XX стагоддзя.

Любоў Мікалаеўна выхадам у свет кнігі, па сутнасці, паклала пачатак мерапрыемствам, запланаваным урадам да 150-годдзя з дня нараджэння Янкі Лучыны (ліпень).

Для прэзентацыі падобнага кшталту — прадстаўленне кнігі — характэрны выступленні. Рабілі іх навукоўцы-мужчыны па-інтэлігенцку вытанчана.

Прыклад гэтаму падаў дырэктар Польскага інстытута ў Мінску спадар Цэзарый Карпіньскі. Творчасць Янкі Лучыны на трох мовах не толькі выконвала ролю пасрэдніцы ў польска-рускім літаратурным узаемадзеянні, але і выяўляла розныя ўзроўні мастацкага асэнсавання беларускай рэчаіснасці 1880 — 1890 гадоў.

Спадар Карпіньскі асабіста прадметна паспрыяў, каб кніга Любові Уладыкоўскай-Канаплянік выйшла ў свет на прыстойным еўрапейскім узроўні.

Прыязна сустрэлі выданне айчынныя навукоўцы літаратуразнаўцы прафесар Адам Мальдзіс, кандыдат філалагічных навук Уладзімір Мархель, доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан, адказны супрацоўнік выдавецтва "Энцыклапедыкс" Ігар Чакалаў.

**Уладзімір НОВІК.**



Дуэт.

Фота Юрыя БОНДАРАВА.

Алег ПРАКАПЕНКА

## Оттепель

Какая прелесть,
Боже мой!
К утру морозить
перестало.
Пора та не была зимой,
Но и весной еще не стала

А с крыш срывается
капель
И з звоном
падает хрустальным,
И дня качнула колыбель
Заря, взойдя яйцом
пасхальным.

И горизонт поднял легко,
Солнце с улыбкой
белозубой,
А мать-земля
хранит тепло
Себя укрыв
прекрасной шубой.

Но не летят еще грачи
В небесном
море фиалета...
Дождался я в темной ночи
Прихода юного рассвета.

Каким же ветром занесло
На эту Землю мое семя?
В руках моих
скрипит весло,
Мне им грести...
Какое время?

## Женщина

Судьба, прошу тебя:
дай право
Мне вечно
женщину любить,
За все изгибы ее нрава —
Дай аромат утех испить.

И жаждой
страсти одолимый
Хочу я вечно обладать —
Той женщиной,
легко ранимой,
Которая все может дать...

Все может дать мне
в этом мире
Она одна, не кто-нибудь,
А я мишень
в забытом тире
Расстреленная
ею в грудь...

## Куда мне боль свою нести?

Куда мне боль
свою нести?
Как снять мне
грусти покрывало?
И как теперь себя вести
С рассветом,
в небе ярко алом?

Легла безмолвия печать,
Надлом духовный
сердце гложет
И жизнь по новому начать
Навряд ли кто теперь
поможет.

Как в море,
в небе голубом
Заря полощется
как знамя,
К земле я жмусь
горящим лбом,
Но мать-земля
не сняла пламя.

На склоне горьких
своих лет
К судьбе ко мне
такой жестокой
Претензий не было и нет,
Как нету их
к звезде далекой.

Гори, гори моя звезда
И дай прославиться
делами,
Меня фортуна, как узда,
Стальными
держит удилами...

Святлана МІЦКЕВІЧ

## Праздник весны

Женщины —
матери и подруги!
Это для вас
Солнце, пройдя
сквозь зимние вьюги,
радует глаз.
Небо, умывшись
вешнею синью,
счастьем манит.
Вечер земной
вчерашней полынью
уж не горчит.
В день этот
зримой истиной стала
данность одна:
Есть два прекрасных,
вечных начала —
жизнь и весна.
Женского сердца
жаркая сила —
вот их исток.
Каждая мать
под сердцем носила
нежный росток.
И позабыты
зимние вьюги
в радостный час.
Женщины —
матери и подруги,
с праздником вас!

Янка ГАЛУБОВІЧ

# Васількова радасць

**Апавяданне**

Ноччу выпаў сняжок і выбеліў вуліцу, хаты, дрэвы на хутары. Ён, быццам крухмал, ажно хрупасцеў пад нагамі.

Але выглянула з-за хмар, прыгрэла сонейка, і пацяклі са стрэх слязьмі ледзяшы, на падворку ўтварыліся невялікія лужынкі. У іх чырыкалі, купаліся шэрыя верабейкі.

Не стрываў, выбег на падворак і Васілёк. Пастаяў ля лужынкі, у якой верабейчыкі ад радасці шалелі, і да дзеда Мікіты, у яго майстэрню, скіраваў.

А ў майстэрні піла гудзіць. З-пад яе горка стружак насыпалася. Ад стружак тых свежым смольным водарам цягне. Бы не ў майстэрню Васілёк ступіў, а ў сасновы бор, які за іхняй рэчкаю расце. Ажно галава злёгку ў хлопчыка закружылася.

Дзед Мікіта табурэтку майстраваў. Убачыў ён унука, усміхнуўся, відаць, спадабалася яму, што Васілёк за яго работай цікуе, выключыў станок дый кажа так:

— Васілёк, скора шпакі прылятуць. Табурэтка нікуды не падзенецца. Давай лепей колькі шпакоўняў зробім.

— Зробім, дзядуля, зробім! — запляскаў ад радасці ў далонькі Васілёк.

Да вечара дзед Мікіта з Васільком змайстравалі ажно чатыры шпакоўні. Тры павесілі ў садзе на яблынях, а чацвёртую — на дубе, ля самай сажалкі на выгане.

Даўно сышоў з палёў снег. Пракалоў ля плота зямлю пырнік, кусты бэзу абсыпаліся зялёнымі хвосцікамі пупышак, распушыла каташкі вярба.

А аднойчы, на дзіва сонечным, цёплым днём, у сад прыляцелі шпакі. Яны аблюбавалі на яблынях шпакоўні і пасяліліся ў іх. Чацвёртая, якая вісела на дубе, птушкам чамусьці не спадабалася. Яна заставалася пустой.

Засумаваў Васілёк. А дзед Мікіта і кажа яму: "Не хвалюйся, унучак, шпакам домік не спадабаўся, дык вераб'і ў ім паселяцца".

Але прайшоў тыдзень-другі, а шпакоўня на дубе так і засталася незаселенай. І вераб'ям яна не прыйшлася даспадобы.

Яшчэ болей засумаваў Васілёк. Усю ноч не спаў. А раніцою, калі ў садзе ля сваіх домікаў заспявалі шпакі, усхапіўся і да дуба пабег. Глядзіць, а на ім вавёрачка сядзіць. Прыгожая такая, рыжавата-чырвоная, а вушы — з кутасікамі на канцах. Цокнула на Васілька і шуснула ў домік.

Навіна аб тым, што ў Васільковай шпакоўні на дубе пасялілася вавёрка, як маланка, праляцела па ўсім хутары, дзе жыў хлопчык з дзедам.

Паглядзець вавёрку прыбеглі Васількові сябры Алеська, Пятруська і Лявонка. У іхніх шпакоўнях у садзе таксама жылі шпакі. Але вось каб вавёрка пасялілася!

Для Васілька такая падзея была вялікай радасцю.



Захапленні

# "Конніца" сям'і Конікавых

***Збіраючыся ў госці на дзень нараджэння, большасць з нас перажывае душэўныя сумненні пры выбары падарунка імяніннікy. Дзе знайсці такі, каб і ў гаспадарцы спатрэбіўся, і арыгінальны быў, і з густам падабраны, ды яшчэ і танны? А вось у Віцебску жыве сям'я, куды прыходзяць у госці без папярэдніх мучэнняў з гэтай нагоды. Таму што ведаюць, якому падарунку тут заўжды рады. Яны дораць гаспадарам... каня. Але не падумайце, што мае знаёмыя маюць канюшню і разводзяць пародзістых скакуноў. Проста прозвішча ў іх ... "конскае" — Конікавы. Вось і вырашылі яны...***

— Ініцыятар калекцыяніравання фігурак коней і іх відарысаў — мая жонка, — смяецца Станіслаў Конікаў, старшыня Першамайскага райкама прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Віцебска.

— Дваццаць шэсць гадоў таму, калі пажаніліся, — расказвае Любоў Уладзіміраўна, — я прапанавала стварыць сямейную фірму "Конікаў энд К", больш дакладна, яе жартоўны варыянт. А ў любой фірмы павінен быць свой фірменны знак. Канешне, нашым знакам стаў конь.

... Так хочацца пагаварыць пра дзівосы лёсу і заканамернасці сустрэчы гэтых двух людзей — Станіслава Львовіча і Любові Уладзіміраўны. Педагогі, аптымісты і ўвогуле вялікія арыгіналы. Ён падарыў ёй сваё прозвішча, яна — сваю мару... Яшчэ дзяўчынкай яе ўразіў маленькі прыгожанькі поні. І заўсёды, калі бацькі пыталіся, што падарыць ёй на дзень нараджэння, яна адказвала: "Маленькага коніка". І цяпер у кватэры сям'і Конікавых сабралася дзіўная калекцыя такой любімай чалавекам жывёліны. Ажно вочы разбягаюцца ад багацця чатырохногіх прыгажуноў. Ужо ў пярэдняй — вешалка, кручочкі, календары, плакаты, цэлая выстава значкоў, карцін, графікі. І ўсё — з відарысам знаёмай фізіяноміі. "Конскім партрэтам" знайшлося месца і ў кухні паміж традыцыйнымі карцінкамі гародніны і садавіны. Пра чатырохногіх залатагрывых мы не забываем і калі заходзім у ванны пакой, і нават у туалет. Але гэта яшчэ прыказка. Казка чакала мяне наперадзе.

Асноўная экспазіцыя размясцілася ў зале. Тут ад фамільнай жывёліны проста ў вачах мітусіцца. Яна паўсюль. І ва ўсемагчымых відах. Ад маленькіх конікаў з дзіцячых "кіндэр-сюрпрызаў", абгортак цукерак і шакаладак, запалкавых карабкоў, запальнічак, попельніц, ручак і карандашніц, кубачкаў і фужэраў, пачкаў цыгарэт і чаю з відарысамі коней да шахматных фігур, падсвечнікаў, ваз, шкатулак, мастацкіх пано, чаканкі, карцін, макрамэ, інкрустацый, разьбы, саломкі, статуэтак коней з усялякага матэрыялу, музычных гадзіннікаў з конніцай... Гасцінныя гаспадары, якія на час ператварыліся ў гідаў, успаміналі цікавыя гісторыі, звязаныя з экспанатамі.

— Гэтых двух прыгожых конікаў мне прывезлі з Кіпра нашы сябры і калегі Заслужаны настаўнік Беларусі Міхаіл Волкаў і яго жонка, — расказвае Станіслаў Львовіч. — А гэтую падарыў вядомы ў рэспубліцы трэнер па скачках на батуце Уладзімір Швальба. Яго перакладчыца, і як потым аказалася, наша знаёмая, калі была ў Канадзе, дапамагла выбраць Уладзіміру каня ў падарунак сябрам. Аднойчы яна завітала да нас, убачыла статуэтку і здзівілася: "Я ж яе ў Канадзе купляла, а як яна да вас трапіла?". На такім кані маршал Жукаў выязджаў на парад Перамогі. А гэтага падарылі мне мае вучні.

— А вось, бачыце, пара скакуноў, — дадае Любоў Уладзіміраўна. — Іх я амаль выйграла. Неяк была ў Маскве і зайшла ў ГУМ. Там праходзіла выстава-продаж вырабаў з Індыі. І разыгрывалася латарэя. Мне адразу ж спадабалася тройка коней, запрэжаная ў карэту. І я стала гуляць. Але ўсё не шанцавала — тройка скакала міма. Ды, мабыць, такімі жаласлівымі вачамі я глядзела на жаданы выйгрыш, што арганізатары латарэі пашкадавалі мяне. І падарылі. Праўда, не тройку, а вось гэтую пару коней.

Тут, ва ўтульнай кватэры, фамільная жывёліна прапісалася ўсур'ёз і надоўга. Па словах гаспадароў, экспанатаў у калекцыі звыш трох тысяч. І як у сапраўдным музеі, ёсць тут і свае запаснікі, адкуль Станіслаў Львовіч выцягваў каляндарыкі, паштоўкі, сшыткі і блакноты, выразкі з часопісаў з фатаграфіямі коней, нават калоду ігральных карт з выявамі скакуноў. Адкрыты ўжо і "філіял" сямейнага музея — на дачы Конікавых, куды завезлі яны частку калекцыі.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Фамільны знак прысутнічае ў гаспадароў і ў адзенні. Станіслаў Львовіч сустрэў мяне ў поўным "конскім" абмундзіраванні: дамашнія тапкі, шкарпэткі, спартыўная футболка, кашуля, заколка на гальштуку, кепцы — усё з малюнкам знаёмай конскай фізіяноміі.

— А ў мяне да нядаўняга часу гэтая тэма ў адзенні адсутнічала, — смяецца Любоў Уладзіміраўна. — Але і мне пашанцавала. Знаёмая настаўніца прывезла з Італіі блузку з малюнкам нашай фамільнай жывёліны.

— А жывую не хацелася б? — пытаюся.

— Чаму б і не. Вось толькі трымаць няма дзе, — жартуюць гаспадары.

— А якога каня не хапае ў вашай калекцыі?

— У віцебскім магазіне антыкварыяту неяк убачыла дзіўную статуэтку — грацыёзны конік з аголенай наезніцай, — гаворыць Любоў Уладзіміраўна. — Але, на жаль, каштавала яна ўсю маю настаўніцкую зарплату. Не рашылася купіць.

... А муж і жонка Волкавы, сябры Конікавых, з лёгкай рукі апошніх сталі збіраць калекцыю на "воўчую" тэму. Першыя экспанаты — ваўкі з мультфільма "Ну, пачакай!" — ужо знайшлі месца ў іх кватэры. Хто наступны?

**Любоў ТРАПЕЗНІКАВА.**

Цікаўным

## Творчыя тайны

Бальзак у час творчай працы перажываў галюцынацыі слыху і зроку. Так, пры апісанні Аўстэрліцкага бою, па словах самога пісьменніка, ён чуў гарматныя выбухі, стогны параненых. Але пры гэтым усё ж не забываў, што ён з'яўляецца творцам, і ставіў межы сваім унутраным перажываннем.

* * *

Дзяржавін заканчваў пісаць оду "Бог". Не дапісаўшы апошняй страфы, ужо ноччу заснуў. У сне яму паказалася яркае святло, слёзы на вачах і... "гатовая" страфа. Паэт ускочыў і пры святле лямпы адразу ж закончыў сваю оду.

* * *

Дастаеўскі гаварыў, што дзякуючы сну ён напісаў раман "Падлетак".

* * *

Караленку па дарозе ў Іркуцк сніліся цэлыя сцэны для яго будучых твораў.

* * *

У Блока "прарочыя" сны былі адлюстраваны ў "Прыгожай даме" і ў паэме "Начная фіялка".

* * *

Пушкін, закончыўшы трагедыю "Барыс Гадуноў", з радасцю напісаў свайму сябру Вяземскаму: "Трагедыя мая скончана, я перачытаў яе ўголас і пляскаў у далоні, і крычаў: "Ай ды Пушкін, ай ды сукін сын!"

**Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
**педагог.**

## Вясельныя юбілеі

**Паркалёвае вяселле** (1 год) — муж і жонка дораць адзін аднаму паркалёвыя насоўкі.

**Драўлянае вяселле** (5 гадоў). У гэты дзень муж і жонка ўручаюць адзін аднаму, а таксама родныя дораць ім драўляныя рэчы, сувеніры, біжутэрыю.

**Цынкавае вяселле** (6,5 года) напамінае пра тое, што на шлюб, як на ацынкаваны посуд, патрэбна наводзіць глянец. Дораць розны посуд і неабавязкова металічны.

**Меднае вяселле** (7 гадоў) — муж і жонка абменьваюцца меднымі манетамі як залогам шчасця і дабрабыту. Лічыцца, што пераадолены крытычны перыяд сумеснага жыцця.

**Бляшанае вяселле** (8 гадоў) — дораць бліскучы кухонны посуд.

**Нікеліраванае вяселле** (12,5 года) — муж і жонка як бы дасягаюць стану сярэдняга дастатку і забяспечанасці. Абменьваюцца нікелевымі манеткамі — у знак прадаўжэння шчаслівага сямейнага жыцця.

**Шкляное вяселле** (15 гадоў) — дораць шкляныя рэчы і сувеніры ў знак таго, што адносіны паміж мужам і жонкай павінны быць чыстымі, як шкло.

**Фарфоравае вяселле** (20 гадоў).

**Сярэбранае вяселле** (25 гадоў) — гэтая ўрачыстасць адзначаецца ўсёй сям'ёй, побач з залатым заручальным пярсцёнкам надзяваецца сярэбраны.

**Жамчужнае вяселле** (30 гадоў) — муж і жонка дораць адзін аднаму і прымаюць каштоўныя падарункі.

**Рубінавае вяселле** (40 гадоў).

**Залатое вяселле** (50 гадоў) — заручальныя пярсцёнкі замяняюцца на новыя, таму што рукі, якія іх насілі, змяніліся, золата сцёрлася.

**Брыльянтавае вяселле** (60 гадоў) — сувязь паміж жонкай і мужам моцная, як алмаз, ніякія сілы не разбураць гэты шлюб.

**Жалезнае вяселле** (65 гадоў).

**Шчаслівае вяселле** (70 гадоў).

**Кароннае вяселле** (75 гадоў).

**Падрыхтавала**
**Аліна ЯНКОЎСКАЯ.**

Хочаце — верце

# Шлюб па зорнаму разліку

*Моцнае пачуццё кампенсуе любыя неадпаведнасці па гараскопе. Праўда, часцей за ўсё гэта можна пачуць ад людзей, зоркі якіх спрыяюць адно аднаму. У адваротным жа выпадку веданне характарыстыкі вашай стыхіі падкажа шлях да дасягнення гармоніі. Існуе мноства тэорый пра тое, якім чынам зоркі ўплываюць на наша жыццё, у тым ліку і сямейнае. Адны астролагі разглядаюць гэтае пытанне па знаках Задыяка, другія — па гадах нараджэння, трэція могуць мець і іншы падыход. Мы ж хочам прадставіць вам сістэму, з якой павінна пачынацца любое даследаванне стасункаў паміж мужчынам і жанчынай. Агонь, Вада, Паветра, Зямля — да адной з гэтых чатырох стыхій належыць кожны са знакаў Задыяка:*

*Агонь — Авен, Леў, Стралец*
*Вада — Рак, Скарпіён, Рыбы*
*Паветра — Блізняты, Шалі, Вадалей*
*Зямля — Цялец, Дзева, Казярог*

*Адносіны паміж партнёрамі розных стыхій можна разглядаць па аналогіі спалучальнасці самых стыхій у прыродзе па наступнай схеме:*

**ПАВЕТРА — ЗЯМЛЯ**

**У прыродзе:** Вецер сушыць зямлю. Ад працяглага ўзаемадзеяння з ім паверхня зямлі становіцца цвёрдай і неўрадлівай, аднак глыбока ў зямлю паветра пранікнуць не можа.

**У партнёрстве:** Гаваркое "Паветра" будзе раздражняць задумлівую "Зямлю". У выніку яна канчаткова замкнецца ў сабе і стасункі выльюцца ва ўзаемныя папрокі і заўвагі. Акрамя таго, для "паветранага" фантазёра будзе нецікавая "Зямля"-рэалістка. Узаемаразуменне ў даным выпадку будзе надзвычай цяжкім, таму шлюб не рэкамендуецца.

**ПАВЕТРА — ВАДА**

**У прыродзе:** Паветра астуджвае ваду, а ад вады становіцца вільготным. Тут відавочна назіраецца ўзаемадзеянне, але яно, хутчэй, адмоўнае, чым станоўчае.

**У партнёрстве:** Вялікае значэнне мае тое, хто з'яўляецца дамінантай у шлюбе. Рамантычнай, чуллівай "Вадзе" будзе холадна побач з практычным, разважлівым "Паветрам". Калі ж вядучая ў шлюбе — "Вада", то "Паветру" будзе няўтульна ад эмацыянальнай, а ў такім саюзе нават агрэсіўнай, натуры. Колькі б "Вада" ні пераконвала, што жыццё цікавае, калі кіпяць пачуцці, яе партнёр усё роўна аддасць перавагу спакойнаму ладу жыцця.

**ПАВЕТРА — АГОНЬ**

**У прыродзе:** Калі паветра выяўляецца ў лёгкім ветрыку, то агонь будзе раздзьмувацца. Калі ж паветра становіцца моцным, агонь можа згаснуць.

**У партнёрстве:** Адносіны могуць скласціся ў дастаткова моцны шлюб, калі ніхто не будзе дамінаваць. "Паветра" можа быць добрым памочнікам і выканаўцам творчых памкненняў "Агню". Галоўнае ў гэтым саюзе — зберагчы баланс, роўнасць стыхіі. Тады саюз будзе шчаслівым і творчым.

**ВАДА — АГОНЬ**

**У прыродзе:** Вада і агонь — дзве процілегласці. Агнём можна нагрэць ваду да стану кіпення, вада можа патушыць агонь.

**У партнёрстве:** Гэта спалучэнне надзвычай эмацыянальных стыхій. У той жа час, калі адзін з партнёраў ("Вада") у парыве пачуццяў не ў сілах стрымаць слёзы, другі ("Агонь") будзе кідаць іскры. Увогуле, саюз непажаданы ўжо таму, што ў любым выпадку адзін з партнёраў будзе ў падпарадкаваным становішчы ў адносінах да другога. Кожная са стыхій вельмі дзейсная, але дзейнічаць сумесна — у іх наўрад ці атрымаецца.

**ЗЯМЛЯ — АГОНЬ**

**У прыродзе:** Пры доўгім узадзеянні агню на зямлю можа ўзнікнуць пажар. Пры сустрэчы ж з зямлёй агонь тухне.

**У партнёрстве:** Спакойнай "Зямлі" трэба шмат часу, каб прывыкнуць да эмацыянальнага і нават выбуховага бяспечнага "Агню". "Агонь" не хавае свае перажыванні ў сабе, а, наадварот, вылівае эмоцыі на іншых. "Зямля", вядома, можа вельмі доўга цярпець такое, аддаючы даніну павагі вялікім талентам і лідэрскім здольнасцям сваёй палавіны. Але калі "Агонь" не будзе берагчы партнёра, дык "Зямля" праз нейкі час яго пакіне. Шлюб праблематычны — усё залежыць ад таго, як будзе паводзіць сябе "Агонь".

**ВАДА — ЗЯМЛЯ**

**У прыродзе:** Вада трапляе ў зямлю, робячы яе ўрадлівай. Але ж калі вады будзе шмат, дык зямля ператворыцца ў гразь.

**У партнёрстве:** Вельмі важна зберагаць баланс стыхій. "Вада" не павінна прэтэндаваць на ролю падмурка сям'і. Калі гэтую функцыю па згодзе возьме на сябе "Зямля", дык шлюб будзе моцным. Спакойная, цярплівая "Зямля" будзе добрым тылам для эмацыянальнай "Вады". Калі ж "Вада" захоча заняць кіруючую ролю, шлюб можа стаць "мінай запаволенага дзеяння". Доўгацярпенне "Зямлі" ў хуткім часе скончыцца — і яна хутка ўцячэ.

Найбольш моцнымі шлюбамі можна лічыць тыя, у якіх муж і жонка належаць да адной стыхіі, але не з'яўляюцца прадстаўнікамі аднаго знака Задыяка. Яны разумеюць адзін аднаго ўжо таму, што дыхаюць у адным рытме — рытме сваёй стыхіі, усе псіхафізічныя якасці якой у такім шлюбе абвастраюцца. Тут можа не быць гарачага пачуцця, вялікіх эмоцый, але будзе каханне, заснаванае на разуменні.

Калі ж муж і жонка з'яўляюцца яшчэ і прадстаўнікамі аднаго знака, дык сітуацыя можа ўскладніцца тым, што яны вельмі падобныя і таму будуць "адлюстроўваць" адзін аднаго. А калі мы кожны дзень бачым асабістыя недахопы ў любімым чалавеку, гэта праз нейкі час пачне раздражняць. Акрамя таго, вядома, што людзей больш прыцягваюць іх супрацьлегласці. Мы ад усёй душы жадаем вам шчасця і душэўнай гармоніі, таму — жывіце сэрцам, вучыцеся слухаць і разумець яго сігналы. Калі-нікалі заглядвайце ў гэтую сістэму спалучальнасці стыхій, калі раптам перад вамі паўстане невырашальнае пытанне — быць ці не быць вашаму шлюбу.

**Падрыхтавала**
**Ліка ВАЯВОДСКАЯ.**



— Тата, ты ўжо адсвяткаваў маміна свята?

Малюнак Алега ПАПОВА.



Галоўны рэдактар Алег КУЛІЦКІ

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**Рэгістрацыйны нумар 370.**
ДЗЯРЖАЎНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА "ДОМ ПРЭСЫ". 22 00 13, МІНСК, вул. Б.ХМЯЛЬНІЦКАГА, 10-а

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; першага намесніка галоўнага рэдактара — 36-53-22; намесніка галоўнага рэдактара-адказнага сакратара — 36-40-63; аддзелаў: школ - 36-43-62, праблем выхавання - 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі - 36-41-55; ВНУ і тэхнікумаў - 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем - 36-44-25; культуры - 36-41-55.



Адказны дзяжурны Ала КЛЮЙКО.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220041, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №1352
П 1 2 3 4 5 6 7 8,9 10 11 12
Падпісана да друку 6.3.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.